## Вынікі галасаваньня у Варшаве.

### З правам голасу—664.797, галасавала—463.885, уняважнена 1,272 галасы.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Сьпісак | № | 1 атрымаў | 165951 | (6 мандат.). |
| „ | „ | 2 „ | 45804 | (1 мандат). |
| „ | „ | 4 „ | 18536 | |
| „ | „ | 5 „ | 3651 | |
| „ | „ | 7 (N.P.R) атр. | 1206 | |
| „ | „ | 13 атрымаў | 65800 | (2 мандаты). |
| „ | „ | 18 „ | 40328 | (1 мандат). |
| „ | „ | 24 „ | 97366 | (4 мандаты). |
| „ | „ | 33 „ | 24113 | |
| „ | „ | 34 „ | 16 | |
| „ | „ | 37 „ | 181 | |
| „ | „ | 39 „ | 2 | |
| „ | „ | 40 (Вольных мысліцеляў) | 579 | |

## Як выглядае новы Сойм (прыблізна).

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Сьпісак | № | 1 разам з дзяржаўным сьпіскам | 130 | мандатаў. |
| „ | „ | 2 (P.P.S.) | 63 | „ |
| „ | „ | 3 (Вызваленьне) | 37 | „ |
| „ | „ | 7 (N.P.R.) | 8 | „ |
| „ | „ | 8 (Сельроб—правіца) | 5 | „ |
| „ | „ | 10 (Stronnictwo chłopskie) | 25 | „ |
| „ | „ | 12 (Chłopskie Stron. Radykalne) | 1 | „ |
| „ | „ | 13 (Камуністы) | 5 | „ |
| „ | „ | 14 (Саюз Хлопскі) | 3 | „ |
| „ | „ | 17 (Zjednoczenie Narodowo-Żyd. w Małopolsce) | 6 | „ |
| „ | „ | 18 (Блёк меншасьцяў) | 57 | „ |
| „ | „ | 19 (Selrob—lewica) | 4 | „ |
| „ | „ | 20 (Чарнасоценцы рускія) | 1 (?) | „ |
| „ | „ | 21 (Narodowo-Państwowy Blok Pracy) | 5 | „ |
| „ | „ | 22 (Blok Wyb. Ukr. Socj. Rob.) | 9 | „ |
| „ | „ | 24 (Эндэкі) | 37 | „ |
| „ | „ | 25 (Piast i Ch.-D.) | 33 | „ |
| „ | „ | 30 (Kat. Unja Ziem Zach.) | 2 | „ |
| | | Мяйсцовыя лісты | 12 | „ |

## Сойм у 1928 годзе і 1922.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Блёк Пілсудск. (№ 1, 21, 30) | 137 | мандатаў. | — |
| Народная дэмакратыя (Z.L.N. (24) і Ch.-D.) | 37 | „ | 119 |
| Хадэцыя Пяст (25) | 33 | „ | 114 |
| Вызваленьне (3) | 37 | „ | 49 |
| Stronnictwo Chłopskie (10) | 21 | „ | — |
| Стапіньскі | 3 | „ | 2 |
| Оконь (12) | 1 | „ | 4 |
| (N. P. R.) (7) | 8 | „ | 18 |
| P. P. S, (2) | 63 | „ | 41 |
| Блёк меншасьцяў (18) | 57 | „ | 89 |
| Расейцы (20) | 1 | „ | 1 |
| S-R і S-D Украінцы (22) | 9 | „ | — |
| Украінская Партыя Працы (26) | 1 | „ | — |
| Сельроб (8) | 5 | „ | — |
| Грамада (39) | 6 | „ | — |
| Камуністы (13) | 5 | „ | 5 |

I ў сьпяваньні марсэльезы яго голас быў мацнейшы і багацейшы за ўсіх...

I вось працэсія дайшла да польскіх калегаў, каторыя стаялі на шырокім пляцу сярод дрэваў і чакалі жыдоў. Гэтыя дзьве працэсіі злучыліся ў-вадну і жыдоўскія сьпевы зьляталіся з польскімі сьпевамі і напоўнілі паветра...

Працэсія рушыла на вызначанае мейсца, дзе вядомыя прамоўцы і правадыры працаўнікоў павінны былі казаць прамовы.

Хаім як-бы пракраўся з сваіх радоў у рады польскіх працаўнікоў.

Нарэшце ён знайшоў таго, каго шукаў...

Ганорця, апранутая па-сьвяточнаму, з вясёлым тварам маршыравала ў радах, трымаючы за рукі з аднаго боку польскую, а з другога боку жыдоўскую калежанку...

Убачыўшы Хаіма, яна выцягнула правую руку, каторую трымала польская калежанка і падала яму.

Хаім моцна сьціснуў яе. Ганорця рассьмяялася.

— О, за моцна!..

Вазьмеце за гэта мяне ў свой рад! прасіў Хаім, як-бы на жарт.

— Хадзеце! і Ганорця ветліва ўзяла яго за руку.

Хаім паглядзеў і ўбачыў, што яна ня мела крыжыка на шыі, і яна зрабілася яму яшчэ даражэйшая...

I так, ідучы ў радох, ён шапнуў ёй на вуха:

— Прыходзьце, Ганорця, пасьля абеду ў парк... там будзе народная забава... Мы правядзём час...

— Але, добра, я прыду! адказала Ганорця.

———

Парк быў поўны рабочымі. Аркестра іграла вясёлыя народныя песьні і маршы. Навакол маленькіх столікаў сядзелі рабочыя, хто з сваімі жонкамі і дзяцьмі, хто з каханкамі, і пілі каву, піва і інш.

Каля аднаго століка ў старонцы сядзеў Хаім з Ганорцяй. Выпіўшы вялікую шклянку піва, ён зрабіўся надзвычай вясёлы, палажыў руку на плячо Ганорці і сказаў:

— Ну Ганорця, як Вам падабаецца наша сьвята?

— Так прыемнае сьвята... адказала Ганорця з бліскучымі вачыма...

— Бачыце, сказаў Хаім з відам пераможца, — Вы сумляваліся, ці сьвяткаваць яго... адзінае сьвята, каторае ня робіць розьніцы ў рэлігіі... Вы разумееце, якое прыгожае такое сьвята!

I, паглядзеўшы на яе калежанскім узрокам, ён вясёла ўсьмяхнуўся.

— Дзе Ваш крыжык...

Ганорця пачырванела, але зараз-жа адказала:

Я сама ня ведаю чаму,—сяньня я саромілася яго надзець...

— Пэўна што так. Першы май — гэта сьвята новай веры для ўсіх людзей... Вы згаджаецеся з гэтым Ганорця?

Ганорця падумала і слаба, але досыць пэўна адказала:

— Але...

— Дык дайце, Ганорця, Вашую руку! вымагаючы сказаў Хаім.

Ганорця працягнула яму руку.

Хаім яе моцна, моцна паціснуў.

На небе стаяла чыстае круглае сонца... Але з захаду плылі маленькія хмаркі... Яны хацелі дагнаць адна другую і злучыцца ў вадну вялікую хмару. Ды сонца стаяла высака, высака і як-бы сьцерагла іх...

Пераклала Э. З.

# Прыблізныя вынікі выбарау у Сэнат.

## У Віленскім ваяводзтве

| | | | |
|---|---|---|---|
| Маючых права галасаваньня | | 357.084 | |
| Галасавала | | 190.868 | |
| Уняважнена | | 5.106 | |
| № 1 B.B.W.R. | атрымаў | 65.470 | галасоў. |
| „ 2 П.П.С. | „ | 11.828 | „ |
| „ 3 Вызв. | „ | 16.329 | „ |
| „ 18 Бл. Мен. | „ | 38.087 | „ |
| „ 20 Р.Н.О. | „ | 799 | „ |
| „ 24 Ch. N. | „ | 21.943 | „ |
| „ 39 | „ | 6.623 | „ |
| „ 40 Б.С.Р.А. | „ | 17.668 | „ |

Прыблізны падзел мандатаў: № 1—2 ман. № 18—1 ман. № 24—1 ман.

## У Наваградзкім ваяводзтве.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Галасуючых | | 131.791 | |
| Уняважненых | | 10.366 | |
| № 1 B.B.W.R. | атрымаў | 43.366 | галасоў. |
| „ 2 П.П.С. | „ | 3.657 | „ |
| „ 3 Вызв. | „ | 1.939 | „ |
| „ 10 Str. Chł. | „ | 20.634 | „ |
| „ 18 Бл. Мен. | „ | 24.845 | „ |
| „ 20 Р.Н.О. | „ | 992 | „ |
| „ 25 | „ | 6.400 | „ |
| „ 33 | „ | 896 | „ |
| „ 37 | „ | 58 | „ |
| „ 41 Б.С.П. | „ | 7.205 | „ |

Прыблізны падзел мандатаў: № 1—2 ман. № 10—1 ман. і № 18—1 ман.

## У Варшаве.

| | | |
|---|---|---|
| Маючых права галасаваньня | | 455.862 |
| Галасавала | | 265.221 |
| Уняважнена | | 503 |
| № 1 | атрымаў | 96.405 |
| „ 2 | „ | 25.084 |
| „ 13 | „ | 27.334 |
| „ 18 | „ | 36.435 |
| „ 24 | „ | 65.159 |
| „ 33 | „ | 14.298 |

Прыблізны падзел мандатаў: № 1—2 ман. № 18—1 ман. № 24—1 ман.

З іншых ваяводзтваў маем весткі толькі аб атрыманых мандатах.

**У ваяв. Беластоцкім** атрымалі: № 1—2 ман. № 18—1 ман. № 25—1 ман.

**У ваяв. Палескім** атрымаў № 1—3 ман.

# Вынікі выбарау па усей Польшчы.

| | Акружн. мандатаў | 8 лісты паньств. | Разам |
|---|---|---|---|
| № 1 (B.B.W.R.) | 39 | 9 | 48 |
| „ 2 (P.P.S.) | 8 | 2 | 10 |
| „ 3 Wyzwolenie | 6 | 1 | 7 |
| „ 7 N.P.R. | 2 | — | 2 |
| „ 8 Sielrob praw. | 1 | — | 1 |
| „ 10 Str. Chł. | 3 | — | 3 |
| „ 17 Zjedn. Żydowskie | 1 | — | 1 |
| „ 18 Blok Mn. | 17 | 4 | 21 |
| „ 21 N.P.B.Pracy | 1 | — | 1 |
| „ 22 B.U.S.W.R. | 1 | — | 1 |
| „ 24 B.K.Nar. | 8 | 1 | 9 |
| „ 25 Piast i Ch. D. | 5 | 1 | 6 |
| „ 37 L. Korfant. | 1 | — | 1 |
| Разам | — | — | 111 |

# Папярэдні Сэнат і цяперашні.

| | Мандатаў | |
|---|---|---|
| | у 1922 г. | у 1928 г. |
| Блёк Пілсудскага (№ 1 і 21) | — | 49 |
| Эндэцыя № 24 | 41 | 9 |
| ППС № 2 | 7 | 10 |
| Пяст і Х.-Д. № 25 і Сьпісак Карфантага | 22 | 7 |
| Н.П.Р. № 7 | 3 | 2 |
| Вызваленьне № 3 і „Строньніцтво Хлопске“ № 10 | 11 | 10 |
| Блёк Меншасьцяў № 18 | 27 | 21 |
| Аб‘яднаньне Жыдоўск. № 17 | — | 1 |
| Сельроб правіца № 8 | — | 1 |
| Выбарны блёк украінск. сац. сял. і раб. | — | 1 |
| Разам | 111 | 111 |

Па атрыманых ведамасьцях галасаваньне ў Сэнат было спакойнае.

Учасьце ў галасаваньні, у параўнаньні з галасаваньнем у Сойм, значна лепшае, наагул галасавала каля 50—60 прац.

У Пазнанскім ваяводзтве галасавала ня поўных 40 прац., у Кракаўскім 56 прац., у Львоўскім — больш 60 прац., толькі ў ваяводзтве Сьлёнскім галасавала амаль ня 100 прац.

У Варшаве галасавала ад 50 да 60 прац.

